


**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠĆYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13 b) München 15, Pettenkoferstr. 23/I.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
**Банкавае конто:** Administration der weissruthenischen Zeitung „Baćkauscyna“ Bankkontonummer 357-125 Bayerische Hypotheken- und Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 11 (241) — Нядзеля 13 сакавіка 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9


# Брытанская «стратэгія адстрашваньня»

Урад Вялікабрытаніі апошнім часам зьвярнуў асабліва вялікую ўвагу на розныя мерапрыемствы, накіраваныя на абарону собскае краіны на выпадак савецкай агрэсіі і выбуху новае сусьветнае вайны. Падобна як і Задзіночаныя Штаты Амэрыкі, Вялікабрытанія кладзе галоўны націск на мадэрную зброю, атамную й вадародную, за кошт канвэнцыянальных збройных сілаў.

17 лютага брытанскі ўрад прадставіў парляманту **«Белую кнігу на 1955—1956 г. г.»**, у якой выкладае сваю абаронную канцэпцыю, праграму збраеньняў і ваенны бюджэт на наступны бюджэтны год. Цяперашняе палажэньне ў сьвеце «Белая кніга» інтэрпрэтуе наступна: «У сучасны пэрыяд няпэўнага пераміра з камуністычнымі сіламі, мэты і палітычная воля якіх ёсьць дыямэтральна процілежныя нашым собскім, існуюць безнадзейна заблытаныя цяжкасьці і небясьпекі. Выглядае, што маналітны характар камуністычнай сыстэмы астаецца ў сваіх асновах нязьменным. Яго мілітарная сіла ўзрастае выразнымі маштабамі. Навонкі камуністычная палітыка, можа, ад часу да часу і выглядае ўступлівай, аднак дзейнасьць камуністых не дала дагэтуль ніякай запраўднай падставы верыць, што загроза вольнаму сьвету заўважальна зьменшылася. Гэтыя цяжкасьці можна перамагчы толькі тады, калі мы будзем цярплівыя і наважаныя; небясьпеку можна будзе абмінуць, калі мы будзем аднагодныя, чуйныя і падгатаваныя».

Белая кніга зьяўляецца выразным довадам, што Вялікабрытанія будзе весьці сваю палітыку з **пазыцыі сілы. Цэнтральным пунктам узбраеньняў будзе разбудова стратэгічнага бамбардавальнага лётніцтва, здольнага выконваць атакі атамнымі і вадароднымі бомбамі, і прадукаваньне собскае вадароднае бомбы.**

Вялікабрытанія ўжо даўно мела собскую атамную бомбу, але ня мела дагэтуль самалётаў, якія гэтыя бомбы маглі перавозіць і ськідаць на варожыя аб'екты. У сувязі з гэтым Вялікабрытанія была залежная ад Задзіночаных Штатаў, якія такія самалёты прадукавалі. Цяпер-жа Вялікабрытанія прыступіла да прадукаваньня собскіх такіх самалётаў, што ў хуткім часе зьменіць дасюлешняе палажэньне. Другой навінай, пададзенай у «Белай Кнізе», ёсьць тое, што і Вялікабрытанія прыступіла да прадукаваньня собскай вадароднай бомбы. Гэта радыкальна зьменіць ролю Вялікабрытаніі ў сьвеце і павялічыць ейную ўдзельную вагу. Побач з Задзіночанымі Штатамі і Савецкім Саюзам, Вялікабрытанія станецца трэйцяй сусьветнай сілай, што будзе мець собскую вадародную бомбу.

Брытанскі міністар лётніцтва лёрд дэ Лісьлі энд Дадлей у мэмарыяле, высьняючым бюджэтны прэлемінар лётніцтва, шырэй паінфармаваў аб новых бамбардавальніках тыпу «V», якія будуць здольныя выконваць бамбардаваньні атамнымі і вадароднымі бомбамі. Брытанская армія, — асьветчыў міністар — хутка атрымае цэлыя фармацыі такіх бамбардавальнікаў, якія будуць даведзеныя да стану найвышэйшай спраўнасьці і гатоўнасьці. Дзякуючы гэтым бамбардавальнікам, брытанскае лётніцтва супольна зь лётніцтвам амэрыканскім станецца галоўнай сілай, здольнай адстрашыць ворага ад агрэсіі. Калі-б, аднак, гэтая надзея падвяла, дык бамбардавальныя фармацыі Вялікабрытаніі былі-б здольныя разам з фармацыямі саюзьнікаў да станоўчага і безадкладнага супрацьудару. Брытанскае лётніцтва прыступае ўжо да выбару і абвучэньня пэрсаналу для абслугоўваньня гэтых бамбардавальнікаў, а так-жа да прыгатаўляньня базаў для гэтых фармацыяў. Базы гэтыя будуць выбраныя такім спосабам, каб бамбардавальныя фармацыі тыпу «V» маглі выконваць сваё заданьне навет тады, калі-б вораг заскочыў Вялікабрытанію неспадзяванай атакай.

Апрача гэтага, міністар паведаміў аб іншых мерапрыемствах лётніцкай гатоўнасьці краіны. Да іх у **першую чаргу** належыць зьнішчальнае лётніцтва. **Ня** гледзячы на тое, што ягоная разбудова ўжо дагэтуль дастаткова праведзеная, у далейшым таксама лётніцтва будзе атрымліваць новыя зьнішчальнікі, здольныя да акцыі ў усякіх атмасфэрычных умовах. Гэтыя зьнішчальнікі твораць дастатковую абарону супраць усякіх тыпаў самалётаў, якія няпрыяцель мог-бы выслаць на Вялікабрытанію на працягу найбліжэйшых некалькіх год.

Далей міністар падаў да ведама, што дасягнуты ўжо значны прагрэс у галіне разьвіцьця кіраваных стрыльнаў, якія могуць быць выстрэльваныя як зь зямлі, гэтак і з паветра. Першыя тыпы такіх стрыльнаў ужо прадукуюцца.

У мэтах абароны значна разбудаваная радарная сетка вакол Вялікабрытаніі. Гэтая сетка ўжо здольная бараніць увесь край, а найважнейшыя яе ўладжаньні зьяўляюцца заінсталяваныя глыбака пад зямлёй. Брытанская радарная сетка моцна зьвязаная з радарнай сеткай іншых заходнеэўрапэйскіх дзяржаваў на кантынэньце.

1 і 2 сакавіка адбыліся ў брытанскай Ніжняй Палаце двухдзённыя дэбаты над абароннай палітыкай, выкладзенай у «Белай Кнізе». Дэбаты адкрыў прэм'ер Чэрчыль вялікай прамовай, над якой, з гледзішча на яе прынцыповую важнасьць, варта затрымацца даўжэй.

Сваю прамову распачаў брытанскі прэм'ер славамі: «Жывём у пэрыядзе, на шчасьце, выняткавым у гісторыі, калі цэлы сьвет ёсьць падзелены інтэлектуальна, а ў вялікай ступені і геаграфічна, між вызнавальнікамі камуністычнай дысцыпліны і вызнавальнікамі свабоды індывідуальнай і калі аднача́сна з гэтым псыхалягічным падзелам абодва працоўныя бакі маюць зьнішчальнае аружжа атамнай эры. Перажываем антаганізмы таксама глыбокія, як і за часоў рэфармацыі і падзеяў, якія прывялі да трыццацігодняй вайны, але сяньня расшырыліся яны на цэлы сьвет замест малой часьці Эўропы. Маем да некаторай меры геаграфічны падзел з часоў інвазіі Манголаў у XII стагодзьдзі, але больш безаглядны і поўны. Маем навуку, якая да гэтага часу служыла чалавеку, а якая загражае, што станецца ягонай уладаркай».

Далей Чэрчыль сьцьвердзіў, што спасярод трох краёў, што маюць знаньне і магчымасьць выпрадукаваньня атамнага аружжа, Задзіночаныя Штаты зьяўляюцца ў падаўляючай меры на чале. Паведаміўшы, што Вялікабрытанія ўжо распачала прадукаваньне вадароднай бомбы, Чэрчыль прадаўжаў: «Хаця савецкія запасы атамных бомбаў могуць быць большыя за брытанскія, вынаходы брытанскія могуць паставіць нас над Саветамі, калі ходзіць аб аснаўную веду».

«Сяньня зьяўляецца фактам, — сказаў Чэрчыль, ударяючы даланёй у стаячую перад ім скрынку з дакумэнтамі — што малая колькасьць плютону, праўдападобна меншая, чымся патрэбная для напаўненьня гэтай скрынкі і якую бясьпечна можна магазынаваць, была-б дастатковай для выпрадукаваньня аружжа, якое дало-б бясспрэчнае панаваньне над сьветам вялікай дзяржаве, маючай на яго манаполь. Няма абароны — абсалютнай абароны — перад вадароднай бомбай, ані таксама не зарысоўваецца ні-

**(Заканчэньне на 4-ай балоне)**

# У вапраўданьне жаргону

Як мы адзначалі ў папярэдніх нумарох «Бацькаўшчыны», русыфікацыя Беларусі перайшла ўжо ў другую стадыю — у стадыю «навуковага» абгрунтоўваньня фактычнага стану рэчаў. У гэтым «навукова»-русыфікацыйным наступе ахопліваецца што раз то больш дзялянак беларускае навукі. У некаторых дзялянках ужо ёсьць канкрэтныя вынікі гэтае акцыі: «навука» гістарычная, прыкладам, дала нам том «Гісторыі БССР»; «навука» літаратураведная — «Нарыс гісторыі беларускай савецкай літаратуры» на расейскай мове; «навука» моваведная надарыла нас спачатку расейска- «беларускім» слоўнікам (дзе беларускую мову шчодра папоўнілі «коштам слоў роднае ёй расейскае мовы», як зазначана ў прадмове, а цяпер вось даведваемся аб яшчэ адным «навуковым» падарунку ў галіне моваведы:

Сёлетні № 2-гі «Полымя» паведамляе нам цераз С. Александровіча аб «актуальных пытаньнях беларускага мовазнаўства»:

«Нядаўна Выдавецтва Акадэміі навук Беларусі выдала «Працы Інстытуту мовазнаўства АН БССР» (Менск, 1954. Рэдкалегія: К. Крапіва, М. Булахаў і Ю. Мацкевіч, выпуск другі, бач. 228), якія даюць уяўленьне аб тых важных і актуальных пытаньнях беларускага мовазнаўства, над якімі працуюць моваведы рэспублікі.

«У першым выпуску «Прац» былі зьмешчаны ў васноўным матар'ялы із старажытнае беларускае мовы і дыялекталёгіі.

«Другі выпуск „Прац Інстытуту мовазнаўства" прысьвечаны пытаньням паходжаньня й разьвіцьця беларускае мовы, вывучэньня асноўнага слоўнікавага фонду, граматычнага ладу, дыялектнай асновы і інш.

«Адкрываецца зборнік аглядавым артыкулам М. Судніка «Важнейшыя задачы беларускага савецкага мовазнаўства». У артыкуле даецца падрабязны й дэталёвы агляд таго складанага камплексу пытаньняў і праблем, якія стаяць перад беларускімі лінгвістымі. Апрача тэарэтычных палажэньняў, паказваюцца і бліжэйшыя практычныя заданьні: «стварыць поўны і дасканалы артаграфічны слоўнік, а таксама падрыхтаваць вялікі тлумачальны слоўнік сучаснай беларускай літаратурнай мовы», выдаць падручнікі для сярэдняй і вышэйшай школы, якія будуць адпавядаць высокім патрабаваньням марксыстоўскага вучэньня аб мове.

«Сярод матар'ялаў зь гісторыі мовы выдзяляецца вялікі аргумэнтаваны і зьмястоўны артыкул М. Булахава «Да пытаньня аб асноўным слоўнікавым фондзе і слоўнікавым складзе старажытнай беларускай мовы». У артыкуле ставіцца даволі цяжкае й складанае заданьне «высьвятліць складовыя элемэнты асноўнага фонду старажытнай беларускай мовы зь гістарычнага гледзішча».

«Аўтар артыкулу робіць зусім правільны вывад: «Няправільным будзе лічыць, што быццам толькі беларуская мова запазычала словы зь іншых моваў, а сама яна не зьяўлялася крыніцай узбагачэньня іншых моваў». У пацьверджаньне сказанага прыводзяцца словы, якія былі запазычаны зь беларускай мовы ў летувіскую й латыскую мовы (траціць, вабіць, раніца, пакута, хворы, кравец і інш.), ва ўкраінскую мову (бадзёры, шула і інш.).

«У зборніку зьмешчана дасьледваньне А. Бірылы на аналягічную тэму „Да пытаньня аб паходжаньні й разьвіцьці беларускае мовы"».

«М. Жыдовіч у сваім артыкуле „Да пытаньня аб устойлівасьці скланеньня назоўнікаў у беларускай мове» на канкрэтных прыкладах, узятых із старажытных пісьмовых помнікаў, дыялекталягічных матар'ялаў, літаратурных твораў XIX стагодзьдзя і сучасных пісьменьнікаў, паказвае ўстойлівасьць марфалягічнай сыстэмы назоўнікаў.

«У зборніку ёсьць дзьве працы на аналягічную тэму: Ю. Мацкевіча „Важнейшыя пытаньні беларускае дыялекталёгіі" і Н. Вайтовіча „Да пытаньня аб дыялектнай аснове беларускае літаратурнае мовы".

«Багатыя фактычныя дадзеныя, збор аргумэнтаваных матар'ялаў і назіраньняў над асаблівасьцямі мясцовых дыялектаў дазваляе Ю. Мацкевічу зрабіць вельмі важны вывад, што цэнтральныя беларускія гаворкі — дыялектная аснова беларускай нацыянальнай мовы».

Бясспрэчна, што «Працы Інстытуту мовазнаўства АН БССР» — гэта дакумэнты вельмі цікавыя з кажнага гледзішча. Аб іх шмат чаго змаглі-б сказаць нашыя моваведы пры бліжэйшым знаёмстве зь імі. Да гэтага часу, нажаль, бальшавікі чамусьці моцна высьцерагаюцца выпускаць «у людзі» плады свайго «навуковага» натхненьня.

Мы ўпэўненыя, што пры кампэтэнтным і дакладным знаёмстве з «Працамі» шмат чаго можна было-б дакінуць да скромнага пажаданьня, выказанага рэцэнзэнтам Александровічам у «Полымі»: «Хацелася-б, каб у навуковых працах па мовазнаўству была больш багатая й гібкая мова, бяз гэтых шурпатых выразаў: „разгаворная мова", „фарміруючайся"». Дакінуць можна было-б столькі да мовы «Прац», «шурпатае й нягібкае», колькі да самога зьместу, што адказвае «высокім патрабаваньням» расейска-марксыстоўскага вучэньня аб мове ды няпэўна стараецца падмацаваць сваім аўтарытэтам той жахлівы беларуска-расейска-савецкі жаргон, у які пераварылі бальшавікі прыгожую беларускую мову.

**С. Я.**

# Канфэрэнцыя у Бангкоку

Ад 23 да 25 лютага сёлета ў сталіцы Тайлянду (Сіяму) Бангкоку адбывалася канфэрэнцыя створанага 8 сьнежня 1954 году Паўдзённа-Ўсходняга Азіяцкага Абароннага Пакту. У канфэрэнцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх васьмёх дзяржаваў, сяброў Пакту, паймённа: ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі, Аўстраліі, Новай Зэляндыі, Пакістану, Філіпінаў і Тайлянду. Гэта была першая канфэрэнцыя Пакту пасьля яго ратыфікацыі паасобнымі дзяржавамі. Нарады канфэрэнцыі вяліся пры закрытых дзьвярох і абыймалі наступныя пункты парадку дня:

1. Прыгатаваньне абароны перад тэй ці іншай агрэсіяй на прасторы паўдзённа-ўсходняй Азіі,

2. Змаганьне з камуністычнай інфільтрацыяй і падпольнымі змоўніцкімі рухамі, якія загражаюць міру на гэтым прасторы,

3. Вывучэньне спосабу й мэтадаў для павышэньня гаспадарскай і сацыяльнай узроўні ў паўдзённа-ўсходняй Азіі,

4. Разбудова калектыўнай індустрыі Пакту.

Кароткі ўрадавы камунікат паведамляе, што восем дзяржаваў Пакту абмяняліся думкамі аб стане бясьпечнасьці ў паўдзённа-ўсходняй Азіі, стварылі **«Сталую Раду»** і **«Сталы Сакратарыят»** для каардынаваньня абароны супраць камунізму і змаганьня з падрыўнымі камуністычнымі рухамі ў некамуністычных азіяцкіх краінах.

З увагі на асабліва напружанае палажэньне на Далёкім Усходзе, што выражаецца ў вадкрытым збройным канфлікце за кітайскія астравы між Фармозай і кітайскім кантынэнтам з аднаго боку і ўзмоцненай камуністычнай інфільтрацыяй і актывізацыяй камуністычнай дывэрсіі ў некамуністычных краінах Азіі, палітычная апінія Захаду прывязвала да канфэрэнцыі вялікае значэньне і сачыла за ёй з належнай увагай.

Палажэньне на гэтым прасторы становіцца яшчэ болей грозным у сувязі з тым, што камуністычны Кітай, які інсьпіруе і падтрымлівае камуністычную інфільтрацыю ў некамуністычных краінах Азіі, увёў апошнім часам прымусовую трохгадовую вайсковую службу для мужчын ад 18 да 22 год жыцьця. Факт паклiканьня новых двух з палавінаю мільёнаў юнакоў у кітайскую камуністычную армію становіць паважную загрозу для слаба ўзброеных некамуністычных краінаў Азіі, моцна падмінаваных камуністычнай інфільтрацыяй знутра. Апрача гэтага, Пэкін цяпер плянуе стварэньне «азіяцкай дабравольнай арміі» пад камандаваньнем «гэроя вызвольнай вайны» ў Карэі генэрала Лію-По-Чэнга у сіле аднаго мільёна жаўнераў, у склад якой уваходзілі-б 500 тысяч Кітайцаў, па 100 тысяч Ветнамцаў і Паўночных Карэйцаў і па 50 тысяч Тайляндцаў, Бірманцаў, Маляйцаў і Філіпінцаў. Заданьнем гэтай арміі мае быць «вызваленьне Азіі ад каляніяльных агрэсараў».

Палажэньне ў паўдзённа-ўсходняй Азіі моцна ўскладняюць яшчэ дзяржавы блёку Калёмбо (на гэтым прасторы Індыя, Бірма, Цэйлён і Інданэзія), якія ў змаганьні між камуністычным Усходам і антыкамуністычным Захадам абвесьцілі поўную нэўтральнасьць. Справа, аднак, у тым, што нэўтралітэт гэтых краінаў зьяўляецца шкодным для Захаду, а выгадным для камуністых. Гэтыя краіны ўважаюць палітыку камуністычнага Кітая, як і камуністычныя падрыўныя рухі ў некамуністычных краінах за натуральнае імкненьне народаў Азіі да поўнай незалежнасьці і вызваленьня з пад эўрапэйскага і амэрыканскага каляніялізму, а супрацькамуністычную інтэрвэнцыю заходніх дзяржаваў на азіяцкім прасторы — за абарону і ўзмацненьне гэтага каляніялізму. Такім чынам краіны блёку Калёмбо, будучы фармальна нэўтральнымі, фактычна-ж зьяўляюцца спадарожнікамі камунізму.

Аснаўной праблемай нарадаў у Бангкоку было пытаньне мэтазгоднасьці спосабаў і мэтадаў у супрацькамуністычнай абароннай акцыі ў паўдзённа-ўсходняй Азіі. Канфэрэнцыя сьцьвердзіла, што камуністычная загроза выступае на гэтым прасторы ў дзьвюх формах: у форме адкрытай кітайскай агрэсіі, якая мела месца ў Карэі, Ветнаме, а цяпер вядзецца супраць кітайскіх астравоў, што знаходзяцца пад уладаю Чан-Кай-Шэка, і ў форме рэвалюцыйна-падрыўной акцыі зь сярэдзіны. Усе ўдзельнікі нарадаў былі згодныя ў тым, што нутраная камуністычная інфільтрацыя і падрыўная акцыя ёсьць небясьпечнейшая за адкрытую агрэсію. Найважнейшай зброяй у змаганьні з абедзьвюма формамі камуністычнай загрозы канфэрэнцыя вызнала падняцьце гаспадарскай узроўні і жыцьцёвага стандарту азіяцкіх краінаў і абарону асабістай свабоды іхнага насельніцтва.

У часе канфэрэнцыі адбылася нарада міністраў замежных справаў ЗША Дальлеса і Вялікабрытаніі Ідэна ў справе Фармозы. На жаль, узгадненьне ў гэтай справе ня было дасягнутае. Вялікабрытанія асталася пры сваей думцы, што прыбярэжныя астравы Кэмой, Матсу і Нанчы, бараніць якія забавязаліся ЗША, павінны быць аддадзеныя Кітайскай Народнай Рэспубліцы.

Канфэрэнцыя ў Бангкоку ніякіх прынцыповых пастановаў ня прыняла, каб гэтым не замыкаць дзьвярэй для прыступленьня да Пакту іншых азіяцкіх краінаў. Яна толькі лішні раз выявіла вельмі сур'ёзнае палажэньне ў паўдзённа-ўсходняй Азіі і зактуалізавала пякучую патрэбу больш станоўчай і энэргічнай абароны перад камунізмам.

**X**

### АД РЭДАКЦЫІ

**Наступны нумар «Бацькаўшчыны» выйдзе падвойным зь месячным дадаткам «Каласкі» і будзе прысьвечаны 37-ай гадавіне абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.**


**ВЫПІСВАЙЦЕ, ЧЫТАЙЦЕ Й ПАШЫРАЙЦЕ БЕЛАРУСКІЯ КНІЖКІ — — ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

# Мікола Равенскі

### У ДРУГУЮ ГАДАВІНУ СЬМЕРЦІ

Два гады таму, 9-га сакавіка 1953 году, памёр на чужыне шырака ведамы на Бацькаўшчыне й на эміграцыі беларускі кампазытар, тэарэтык музыкі, незраўнаны знаўца фальклёру і харавы дырыгент — Мікола Равенскі. Ягоны жыцьцёвы шлях — гэта прыклад адданасьці мастака свайму народу.

Мікола нарадзіўся ў 1886 годзе ў вёсцы Засусьле былое Менскае губэрні. Ужо змалку ён чуў нястрыманы пацяг да музыкі. Бацька ягоны, безьзямельны селянін, працаваў садоўнікам у вабшарніка, і матар'яльна ня мог здабыцца, каб даць асьвету здольнаму сыну. Аднак якраз здабыцьцё асьветы ды праца на музычным полі былі мэтай ужо малога Міколы. Ён вучыцца саматужна й ступенька заступенькай рухаецца наперад. Яшчэ падроскам ён пападае ў Менск, дзе зарабляе на жыцьцё сьпяваючы ў архірэскім хоры. Пры гэтым ён не пакідае вучыцца. У Менску ён здае эгзамены за сярэднюю ніка музыкі ў Наваградку. Але гэта не асьвету й атрымоўвае становішча настаўзадавальняе Равенскага й ён дабіваецца стыпэндыі на вышэйшы курс для дырыгентаў у Пецярбургу, які канчае ў 1916 г. Змабілізаваны, ён займае даволі паважныя інтэнданцкія становішчы, ведамы з свае сумленнасьці. Пасьля рэвалюцыі Равенскі варочаецца ў Менск, дзе адразу ўключаецца ў нацыянальную працу на музычнай ніве. Ён выкладае музыку ў сярэдніх школах, кіруе харавымі гурткамі, зьбірае й апрацоўвае народны песенны матар'ял, — але й заадно працягвае асьвету. Ён запісваецца ў Маскоўскую Кансэрваторыю, якую й канчае, ня гледзячы на ўвесь навал працы й вельмі цяжкія матар'яльныя ўмовы. Ад 1926 году ён становіцца выкладчыкам тэарэтычных дысцыплінаў у Менскім Музычным Тэхнікуме, а ад 1931 году ў Беларускай Дзяржаўнай Кансэрваторыі.

Акрамя апрацоўкі беларускага фальклёру, Мікола Равенскі напісаў таксама рад арыгінальных твораў. Ягоным капітальным творам была опэры «Браніслава», напісаная ў 1928 годзе на лібрэто зьнішчанага бальшавікамі паэты Ул. Дубоўкі. Сюжэтам опэры была гаротная доля дзяўчыны Браніславы на службе ў пана. Бальшавікі аднак расшыфравалі ўтоеную ідэю опэры, пазнаючы ў Браніславе акупаваную Беларусь, а ў пане — самых сябе. Опэра была адразу-ж сканфіскаваная, а аўтару цудам удалося ўратавацца ад высылкі.

Усе знаўцы музыкі падзіўляюць майстроўства апрацовак народных песьняў Міколам Равенскім. Ягоныя собскія творы гэтаксама блізкія сэрцу Беларуса. На месцы адцеміць, што на працягу свае дзейнасьці пад бальшавікамі, Равенскі не напісаў ніводнага паклоньніцкага твору акупантам. Калі-ж да гэтага змушалі абставіны, ён, пры ўсёй сваёй сьціплясьці, здабываўся на крок, сьмеласьць якога ён мог у кажную хвіліну аплаціць жыцьцём. Вось характэрны прыклад. Атрымаўшы заказ на песьню ў чэсьць гадавіны г. зв. вызваленьня Беларусі з пад белапалякаў, Равенскі напісаў г. зв. «Ліпнёвы Гымн» на словы таго-ж Ул. Дубоўкі, у якіх вонкава нельга было знайсьці ніякага ідэйнага ўхілу. «Ліпнёвы Гымн» быў выкананы падчас урачыстай акадэміі ў найвялікшай залі Менску. Публіка была заскочаная: замест радасьці й энтузіязму, песьня пакідала цяжкое, напружанае пачуцьцё чаканьня. Гэта быў свае асаблівы пратэст кампазытара супраць зьмены аднэй акупацыі другой. Бальшавікі адразу-ж спахапіліся й сканфіскавалі манускрыпт песьні. Зрабілі яны гэта ціха, бяз шуму.

НКВД не пакідала ніколі Равенскага ў супакоі. Першы арышт кампазытара адбыўся ў сувязі з разгромам Менскага Работніцкага Клюбу, які бальшавікі лічылі адным з важнейшых цэнтраў нацдэмаўскага руху. Кіраўніком Клюбу быў Равенскага брат. Гэты апошні быў імі неўзабаве расстраляны. Кампазытар быў выпушчаны, але ад гэтага часу ён быў пад сталым наглядам НКВД. Яго выклікалі, дапытвалі, загадвалі сачыць за сябрамі-кампазытарамі. Свайго аднак яны не дасягнулі — Мікола Равенскі ніколі ня стаўся паслушным агентам.

Вайну перажываў Мікола Равенскі на Беларусі. Частка ягоных, несканфіскаваных бальшавікамі твораў згарэла пры наступе Немцаў. Аднак ён, як тая пчала, працягваў працу, творачы новыя й новыя творы. Акрамя апрацоўкі народных песьняў, ён стварыў рад глыбока нацыянальных твораў, як «О, Беларусь, мая шыпшына», «Пагоня», «Жалобны марш» і г. д. Ён напісаў таксама музыку для праваслаўнай літургіі, пабудаваную поўнасьцяй на народных тэмах.

Не зламала кампазытара й эміграцыя. Яшчэ ў вельмі цяжкіх умовах у 1946 годзе, ён зарганізаваў Жаночы Ансамбль, які стаўся слаўным па ўсёй Нямеччыне. Ягоны мяшаны хор з 40 асобаў карыстаўся ня меншай папулярнасьцяй. Не пакідаў ён і творчай працы: за час эміграцыі ён напісаў некалькі вартасных твораў для фартэпіяна, іскрыпкі й цэлы рад вакальных. Урэшце, пераехаўшы ў Бэльгію ў 1950 годзе, ён зарганізаваў Беларускі Студэнцкі Ансамбль, які ўжо даў канцэрты ў 4-х эўрапэйскіх сталіцах, знаёмлячы заходні сьвет зь беларускай музыкай і нацыянальна-вызвольнымі імкненьнямі нашага народу. За 5 год свайго існаваньня Беларускі Студэнцкі Ансамбль мае за сабою больш за 60 выступаў, і насьпяваў дасюль 12 грамафонных плітак. Таксама ўжо выходзіць з друку зборнік твораў Равенскага, загалоўлены «Ад родных ніў».

Навет цяжка хворы, Мікола Равенскі не пакідаў працы. Ейным заключальным акордам быў вакальны твор «Мой родны кут», поўны тугі й болю за зьняволеную Беларусь.

9-га сакавіка 1953 году ён ціха адыйшоў ад нас, пакідаючы за сабою векапомную спадчыну.

Імя Міколы Равенскага шырака ведамае па ўсёй Беларусі. Ня выкараніць яго бальшавіком, якія ня могуць выбачыць яму ягонай варожасьці да чужога беларускаму народу камунізму, ягонай адданасьці свайму народу, у нацыянальнае й сацыяльнае вызваленьне якога ён верыў да апошняе часіны жыцьця. Сьхілім-жа ўсе разам галовы перад гэтай сьветлай постацяй змагара, магілу якога занясло на далёкую чужыну змаганьне за волю Беларусі.

**У. С.**

# Аб рэальнай арыентацыі Палякаў

Мы ўжо некалькі разоў пісалі аб палітычных канцэпцыях у дачыненьні да Беларусаў выдаванага ў Швэцыі польскага месячніка «Наш Знак», які зьяўляецца ворганам польскіх «людоўцаў» («Польске Стронніцтво Людовэ» — Польскае Сялянскае Згуртаваньне) Станіслава Мікалайчыка. Усходнія канцэпцыі гэтай групы Палякаў радыкальна зрываюць з польскай палітыкай зь перад верасьня 1939 году і прадаўжэньнем гэтае палітыкі бальшынёй польскае эміграцыі, якая, наўсуперак новай палітычнай сытуацыі і дакананых фактаў, нэгуе правa беларускага народу на дзяржаўную незалежнасьць і дамагаецца прывярненьня стану з 1939 году. Ня ў прыклад гэтым польскім палітычным Дон Кішотам, усходнія канцэпцыі групы з «Нашага Знаку» базуюцца на палітычным рэалізьме і разглядаюць беларускую праблему прыязна і больш менш так, як яе разглядаем і мы.

У гэтай справе «Наш Знак» ужо даволі шырака й вычарпальна высказаўся, аб чым мы заўсёды інфармавалі нашых чытачоў. Апошні нумар «Нашага Знаку» (№ 32—33 за студзень—люты 1955 г.) прыносіць яшчэ адзін цікавы артыкул на гэтую тэму. Гэта артыкул аднаго з галоўных супрацоўнікаў часапісу Балеслава Пшыбыльскага п. н. «За палітычную арыентацыю», у якім аўтар палемізуе з артыкулам А. Гертыха, зьмешчаным пад тым самым загалоўкам, што й артыкул сп. Пшыбыльскага, у выдадзенай ім у Лёндане аднаднёўцы «Лётныя Карткі») («Карткі улётнэ»). Каб прыпомніць нашым чытачом палітычную канцэпцыю польскіх «людоўцаў», прыводзім ніжэй з успомненага артыкулу сп. Пшыбыльскага тую яго частку, у якой ён парушае праблему беларускай дзяржаўнасьці і выказвае свой пагляд на яе, як польскага патрыёта й рэальнага палітыка.

«Спадар Гертых цьвердзіць, што падтрыманьне незалежніцкіх імкненьняў Беларусі і Украіны ёсьць „узнаўленьнем палітыкі Пілсудзкага", і сумляваецца, ці незалежнасьць гэтых народаў „ляжыць у інтарэсах Польшчы". Далей перасьцерагае сп. Гертых перад „ангажаваньнем да змаганьня за распадзел Расеі". Тут трэба здаць сабе справу, што не аб распадзел ходзіць, як калісьці даканала гэтага Расея на Польшчы, але аб вылучэньне з пад ейнае гэгемоніі іншых народаў, ёю паняволеных, якія жадаюць свабоды. Шчырае падтрыманьне незалежніцкіх імкненьняў Украінцаў і Беларусаў ня ёсьць наваротам да палітыкі Пілсудзкага, бо ён шукаў на Ўсходзе не саюзьнікаў, але тэрытарыяльных здабыткаў, будучы напасьледак у гэтым у згодзе з Дмоўскім як і сп. Гертыхам, бесьперастанна думаючым аб лініі па Бярэзіну і Камянец Падольскі. Правільна, Расеі не залежыць так шмат на Вільні і Львове, але ці ў сьвятле фактаў і эвалюцыі людзкасьці адбудова перадваеннага стану на Ўсходзе ляжыць у інтарэсах польскага народу? І ці наагул ёсьць гэта дасягальным? Ці ня лепей шукаць іншых разьвязаньняў? Высказваючыся за незалежнай Украінай і Беларусяй, не абазначае гэта яшчэ, каб мы мелі народам гэтым гэтую незалежнасьць „спрэзэнтаваць". За яе павінны змагацца перадусім самыя заінтэрэсаваныя народы, Палякі не павінны толькі прылучаць сваей рукі, каб супольна з Масквой стацца грабаром свабоды гэтых народаў. Скажам шчыра й адкрыта: такія самыя правы да незалежнага быту маюць Украінцы і Беларусы, як і мы, Палякі; далей, мэта аднолькавая — вораг той самы, і выходзячы з гэтага гледзішча, нашыя палітычныя арыентацыі павінны фармавацца ў кірунку супольнай тактыкі і супольнай пазыцыі перад надыходзячымі выпадкамі. Ёсьць гэта адначасна арыентацыя польскіх дзяржаўных інтарэсаў, арыентацыя рэальная, вынікаючая з факту перасяленьня польскага насельніцтва з „Крэсаў" на Зьвернутыя Землі, вынікаючая з дэтэрмінацыі народу ўтрымаць граніцу Одра—Найса за ўсякую цану.

Сьмеім таксама сумлявацца, каб Амэрыка пасьля перамогі ўдзяржала Расею як „недзялімую Матушку Расею", навет калі-б гэтага хацела.

Адцэнтравыя сілы заўсёды ў Расеі існавалі, існуюць і, калі прыйдзе час, выбухнуць стыхійна. Мы не патрабуем актыўна ангажавацца па тым ці іншым баку, але павінны зрабіць усё, каб прыцягнуць да сябе народы беларускі і ўкраінскі.

Таксама не згаджаемся зь цьверджаньнем, што Немцам залежыць на пасварэньні нас з Расейцамі. Ёсьць наадварот. Хочаць нас пагадзіць з Расейцамі, бо зьяўляюцца пэўнымі, што Расея хутчэй заплаціць за Зьвернутыя Землі — землямі на ўсходзе ад Польшчы. Таксама Немцы ведаюць, што падтрыманьне Украінцаў і Беларусаў у ўтрыманьні пры Польшчы Брэслава й Шчэціна ёсьць шчырае і такое будзе заўсёды, бо зьбягаецца гэта з жыцьцёвымі інтарэсамі абодвых народаў.

Зьдзіўляе ўжо інсынуацыя сп. Гертыха, што пагляды такія йдуць «каналамі масонскага ўплыву». Падобна зьдзіўляючым ёсьць ягоны страх перад «атэістычнай (у будучыні) Амэрыкай, падобнай да Савецкай Расеі ці Нямечыны Гітлера»!? Пагляд такі сьветчыць аб неставаньні поўнай знаёмасьці рэчаіснасьці ў Задзіночаных Штатах. Амэрыканскі народ ёсьць больш рэлігійны і больш масава ходзіць да сьвятыняў, чымся Эўрапэйцы. Іншая справа, што не каталікі там дамінуюць, што відаць, гневае гэта сп. Гертыха, які за нашага натуральнага саюзьніка выбраў Гішпанію!

З факту, што польскі народ ёсьць каталіцкі, ня вынікае яшчэ лінія польскай палітыкі і дзеяньняў. Не заўсёды каталіцкі край мае на продаж узоры годныя да насьледваньня, а напэўна мае іх мала каталіцкі генэралісімус Франко. Гішпанія ёсьць нашым саюзьнікам сілаю фактаў, затое калі-б Польшча мела свабоду — неканечна. Задзіночаныя Штаты заўсёды будуць нашым саюзьнікам, бо калі хочам ( а хочам) збудаваць у сябе дэмакратычны парлямантарны лад, то шмат можам навучыцца якраз ад Англасасаў, не гаворачы ўжо аб канечнай эканамічнай помачы зь іхнага боку. Падобна таксама, сілаю выпадкаў, «саюзьнікам» нашым робяцца цяпер Немцы. Мэту маем супольную — пабіць Саветаў? А што потым? Немцы перастануць быць саюзьнікам, а Гішпанія, найвышэй, скажа якое слова ў вабароне польскіх інтарэсаў, што таксама ня ёсьць пэўным. **У гэтым якраз часе, толькі народы ўкраінскі і беларускі могуць стацца вельмі цэнным саюзьнікам.** Упадак Саветаў не разьвязвае яшчэ польска-нямецкага канфлікту. Каб на ўсходзе мець саюзьніка, трэба гэтага старацца і гэта ляжыць у інтарэсах усіх трох народаў!

Із свайго боку, адказныя палітыкі ўкраінскай і беларускай эміграцыі **павінны імкнуцца да паразуменьня з дэмакратычнымі сіламі польскага народу».**

### КНІГА АБ ЖАНЧЫНАХ САВЕЦКАЕ БЕЛАРУСІ

Дзяржаўнае выдавецтва БССР выпусьціла літаратурны зборнік «Жанчыны Савецкай Беларусі». У ім надрукаваны нарысы, артыкулы, вершы й апавяданьні аб слаўных патрыётах рэспублікі.

Кніга складаецца з наступных разьдзелаў: «За свабоду й незалежнасьць Радзімы», «На фабрыках, заводах, новабудоўлях», «На калгасных палёх», «За ўздым навукі й культуры рэспублікі» і «Наша будучыня».

**(Паводля «Полымя», № 2, 1955)**

Нідзе толькі ня сказана ў зборніку, якая вялізарная прорва ляжыць між масай гаротных беларускіх жанчын і гэнымі «слаўнымі патрыётамі рэспублікі», якім прысьвечана рэклямная пісаніна зборніка.

ў розных напрамках праменьні пражэктараў, але што мне з таго, калі іх цікавіла паднябесьсе, а не зямля. Тым ня менш, каб ня чуцца зусім самотным, я сачыў за іхняй гульнёй ды прыслухоўваўся да гулу самалётаў, якія прыцягнулі сюды на бадай суцэльнае попелішча свой сьмяротны цяжар. І раптам тое, што я пабачыў, здалося мне цудам. Блукаючы два праменi перасякліся паміж сабой, стварыўшы высока над слаўным горадам на небе вялізны крыж, але адначасна бліснуў на зямлі другі крыж, аздоблены лілеямі і дзідамі. Толькі на момант бліснуў ён у беспатольнай цемры, аднак я адразу спазнаў знаёмы мне з маленства крыж Сьвятое Сафіі. Я перахрысьціўся ў той бок, дзе ён бліснуў, і неўзабаве адшукаў свой чарговы і тымчасовы прытулак. Ладне вады з таго часу далучыла Палата да Дзьвіны, іншыя рэкі з чужымі назовамі цякуць цяпер побач мяне, але ўсё-ж хочацца да скону свайго жыцьця захаваць у душы той сьвяты, родны незабытны арыентыр.

А можа хто-небудзь усьміхнецца дый палічыць мяне дзіваком, заўважыўшы паміж маіх асабістых рэліквіяў маленькі кавалак звычайнае цэглы, для якога тым ня менш заўсёды было ў маім вандроўным хатылі пачэснае месца. А што мне з тае ўсьмешкі? Ён звычайны толькі на першы пагляд. Часам бярэш гэты кавалак у рукі больш пяшчотна, чым Жыды на выгнаньні ладунку зь зямлёй сіёнскай. Гэта маленькая частка яшчэ тае вялізнае сьвятыні, звон якое чуў з далёкае чужыны Ўсяслаў Вялікі.

Наступнае месца за Полацкам займае на Дзьвіне па свайму адбітку ў нашай гісторыі бадай тысячагадовы Віцебск. Паводля адных навуковых дадзеных, ён набыў сваё імя ад купцоў з гораду Вісбі, сталіцы суворае выспы Гатлянд на Балтыцкім моры, якія заснавалі яго на шляху «з Варагаў у Грэкі». Паводля іншых навуковых крыніцаў і народных паданьняў, ён стаўся Віцебскам ад рэчкі Віцьбы, што паміж Альгердавай і Усьпенскай Гарой, дзе ўзвышаўся зьнішчаны бальшавікамі выдатны помнік мастацтва — сабор, уцякае ў Дзьвіну. Гісторыя Віцебску цалкам знайшла адбітак у вядомай прыказцы: «Кепска каля Віцебску, а ля Воршы 'шчэ горшы». Не дарма мясцовасьць паміж Віцебскам і Воршай вядомая пад назовам Смаленскае Брамы. Якія толькі чужынцы ня йшлі праз гэтую браму паміж вялікімі рэкамі — Дзьвіной і Дняпром — з усходу на захад, або з захаду на ўсход, але Віцебск з гонарам перажываў усё. Паводля апошніх вестак з усіх гарадоў Беларусі пасьля Другое Сусьветнае вайны найбольш папакутваў ад бальшавіцкіх рэпрэсіяў Віцебск. У ім не засталося і дзесятае часткі колішняга насельніцтва. Аднак Віцебск перажывае і гэтае.

Старадаўны, беларускі, непакорны Віцебск. Тут, як здраднікаў, кінулі ў мяшку ў палонку на Дзьвіне князя Пяструцкага, а князя Гальшанскага ськінулі з Замкавае Гары ў тую-ж Дзьвіну, тут, як шпегаў, спалілі смаленскага мітрапаліта Гарасіма, а лоўчага Хведара Вясну ськінулі з Вусьценскае вежы Верхняга замку, тут пасадзілі на кол украінскага казацкага атамана Дубіну і гэтак скрозь аж да часоў нацдэмаў. Галоўны інквізытар на Канстанцкім Саборы ў 1415 г., дамагаючыся спаленьня на вогнішчы славутага чэха Яраніма Праскага, распачынае сваё абвінавачваньне словамі: «У Літве існуе спрадвеку многалюдны горад, называны Віцебскам». Тутэйшы жыхар Марка Лытка атрымаў шляхоцкую годнасьць і прозьвішча Фэлінскага за тое, што ў 1605 г. пад Фёлінам на чале 500 віцеблянаў, дарэшты зьнішчыў значнае расейскае войска. Гэты горад 28 верасьня 1705 г. цалкам спаліў Пётр Першы, бо ён падтрымліваў Карла XII. У гэтым горадзе Напалеон Банапарт сказаў прызначанаму ім губэрнатару Беларускае губэрні маркізу Пастарэ: «Глядзіце на Беларусь, як на саюзьніцу, а не як на заваяваную краіну». Ці ня ўплыло на яго таксама тое, што калі 16 ліпеня 1812 г. ён уяжджаў на буланым кані ў Віцебск, дык жанчыны абсыпалі яго дробнымі чырвонымі гвазьдзікамі, і таму ўладар Эўропы здаўся апырсканым з трывуголкі да батфортаў крывёю. Цяжка навет пераказаць ўсё тое, што бачыў Віцебск. Не дарма кароль Жыгімонт III гэтак тлумачыць у сваім прывілеі дараваны ім Віцебску гэрб:

> «...в блекитном полю абраз Спаса Збавіцеля и притом трохи нижей меч голы чырвоны, што ся мает розуметь кровавы, бо рыцарская харобрасть и доблесть их витеблянов засветчана даволи».

Трэйці, калі не па гістарычнаму мінуламу, дык па вялічыні горад на Дзьвіне — Дзьвінск не патрабуе тлумачэньня свайго назову. Магчыма ні адзін горад на Беларусі не зьмяніў гэтулькі раз свайго імя, як Дзьвінск. Пасьлядоўна ён вядомы, як Дюнебург, Новенене, Невгін, Барысаглебск, Динабург, Дзьвінск і цяпер — Даўгаўпілс. Заснавалі замак Дюнебург Немцы-крыжакі ў 1275 г., якія потым некалькі раз зьнішчала Літва, але Немцы яго зноў аднаўлялі. Разбуралі пазьней замак і Палякі і Расейцы, пакуль нарэшце жыхары не спакінулі горад пры ім, заснаваўшы ў 20 кілямэтрах ніжэй па Дзьвіне сучасны Дзьвінск. Аднак у 19 ст. Расейцы пачалі зноў перарабляць горад Дзьвінск у крэпасьць, якая, ня гледзячы на свае недахопы, адыграла значную ролю ў часе Першае Сусьветнае вайны. І хаця гэрб Дзьвінску — на чырвоным полі мітычны грыф зь мячом у руцэ, вельмі характэрны для яго, як для крэпасьці, але грыф гэты не беларускага паходжаньня і змагаўся за інтарэсы нашых нацыянальных ворагаў. А што датычыць іхніх перайменаваньняў Дзьвінску, дык адразу ўстае ў памяці пачатак усіх прывілеяў нашых вялікіх князёў Літвы, пачынаючы ад Гедыміна:

> «Мы старыну не парушаем, а навіну не накідваем».

Дарэчы цікава, што лёс гораду Дзьвінску, у сэньсе перайменаваньняў, займеў і пасажырскі параход «Дзьвінск», які курсаваў на Дзьвіне паміж Віцебскам і Вяліжам. Пасьля таго, як Дзьвінск адыйшоў да Латвіі, дык параход, хаця ён належыў латвійскаму падданаму, застаўся ў бальшавікоў, але займеў новы назоў — «Іосіф Бараноўскі» у гонар ягонага старога капітана. Пазьней калі капітана арыштавалі за тое, што ён ня выканаў пляну перавозкі пасажыраў, параход стаўся «Сьцяклоў», бо гэты бальшавік, хаця пад іншым прозьвішчам, але нарадзіўся ў Віцебску. Пасьля расстрэлу Сьцяклова параход набыў імя Яжова, бо той калісьці, як салдат тутэйшага гарнізону, спрычыніўся да Кастрычніку ў Віцебску. Пасьля расстрэлу Яжова, параход стаўся «Бальшавік». Здавалася, цяпер ён забясьпечаны ад далейшых перайменаваньняў, але пасьля скарачэньня назову камуністычнае партыі пэўне-ж на колах параходу зьявіўся новы назоў. Нам прыгадалася эпапэя параходу «Дзьвінск», як і ў сувязі з горадам Дзьвінскам, гэтак і ў сувязі зь лёсам назоваў шматлікіх калгасаў, што тымчасам пакрысе выціскаюць назовы нашых вёсак.

У вышнявінах Дзьвіны там, дзе яна вузейшая, чым пад Дзьвінскам, або Полацкам, але ўсё-ж глыбокая і хуткая, ляжыць на мяжы Віцебшчыны і Вокаўскага Лесу стары Вяліж. Магчыма што горад набыў свой назоў ад рэчкі Вяліжкі, аднак Гайдэнштайн у 1580 г. аб ім зазначае: «Вяліж некалі быў вельмі людным і ад вялічыні атрымаў свой назоў». Можа Гайдэнштайн і мае рацыю, бо кароль Жыгімонт III, даючы заўсёды прыгранічнаму Вяліжу вельмі паказальны гэрб — залаты крыж, а пад ім голы меч — дадае ў сваім прывілеі: «За некалькі сот год толькі пяцьдзесят мяшчанаў з жонкамі ды дзецьмі пры замку вяліскім засталося, бо ад войскаў непрыяцельскіх, якія штурмы да замку чынілі пабітыя ў сваім аднастайным адпору... на пасадзе гарадзкім няма цяпер ні аднае хаты, толькі пні непатрэбныя на попелішчы ад Масквы выпаленых». І гэтак скрозь — ад часоў Вітаўта, аб якім нагадывае пад Вяліжам Вітавая Гара, і аж да славутага Вяліскага супрацьбальшавіцкага паўстаньня. Скрозь — крыж і меч.

Якраз тут у лістападзе 1918 г. сьнег парудзеў ад крыві паўстанцаў, тут пазьней нарадзілася народная гістарычная песьня, у сувязі з адным з шматлікіх тутэйшых партызанаў:

У Вяліжы дождж ідзе,
А ў Віцебску сьлізка;
Хавайцеся бальшавікі,
Бо Нілёнак блізка,

тут на адным толькі Пакроўскім полі ляжыць больш за тысячу расстраляных чакістымі патрыётаў і нарэшце тут на гэтых магілах знайшлі бальшавікі сьціплы вянок з надпісам, што сьветчыць толькі аб нязломнасьці народнага духу:

Усіх нас не расстраляеце!

**(Далей будзе)**

